Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 820.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Аўторак, 15 верасня 1998 г. № 97 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 кастрычніка 1997 г.

## Антановіч накіруе тавары ў Афрыку?

**Учора ў міністэрстве замежных справаў адбылася нарада па пытаннях знешнеэканамічнай дзейнасці.**

У ёй прымалі ўдзел прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч, а таксама прадстаўнікі міністэрства знешнеэканамічнай дзейнасці і прадпрыемстваў-экспарцёраў.

Апошнім часам дзейнасцю беларускага знешнепалітычнага ведамства выказваюць незадаволенасць у розных уладных структурах. Маўляў, чыноўнікі МЗС падарожнічаюць па свеце за дзяржаўны кошт, заключаюць сотні дамоўленасцяў, але іх эфектыўнасць вельмі слабая. Прызнаецца ў гэтым нават сам Іван Антановіч. На ягоную думку, *«тавараабарот расце вельмі слаба, а інвестыцыяў няма»*. У цяперашняй крызіснай сітуацыі ён асабліва спадзяецца на рынкі Афрыкі і Азіі, дзе збіраецца *«зарабіць валюту на таварах»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Калінінград – Мінск

**У хуткім часе ў Калінінградзе будзе адкрытае аддзяленне пасольства Беларусі.**

Пытанні, звязаныя з адкрыццём прадстаўніцтва, абмяркоўваліся 9 верасня на сустрэчы намесніка кіраўніка Калінінградскай абласной адміністрацыі Івана Піменава з паслом па асобых даручэннях міністэрства замежных справаў Беларусі Аляксеем Шаховічам, які ўзначаліць аддзяленне.

*БелаПАН*

## Магілёў трапіў у эліту. Выпадкова

**Мінск і Магілёў увайшлі ў лік заснавальнікаў Міжнароднай асамблеі сталіцаў і буйных гарадоў СНД.**

Першая сесія асамблеі адбылася ў Маскве. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі Кішынёва, Бішкека, Данецка, Новасібірска, Омска, Краснаярска і іншых — усяго 24 гарадоў. Большасць з іх альбо сталіцы, альбо гарады-мільянеры. Магілёў трапіў у гэтую кампанію ў пэўным сэнсе выпадкова.

Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Міканор Міхаловіч лічыць, што гэта адбылося дзякуючы *«асаблівым адносінам паміж Масквой і Магілёвам»*. І што ж гэта за адносіны?

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Восеньскія манеўры Маладога Фронту

**Кіраўніцтва Маладога Фронту вырашыла на перыяд восені 1998 г. памяняць тактыку сваіх дзеянняў.**

Як паведаміў учора лідэр арганізацыі Павел Севярынец, Малады Фронт збіраецца часова адмовіцца ад правядзення буйных вулічных акцыяў. На яго думку, у цяперашніх умовах больш плёну прынясуць мерапрыемствы культурніцкага характару: канцэрты, дыскатэкі, шоу, вікторыны і г.д. Тым не менш МФ не збіраецца цалкам адмаўляцца ад палітычнай дзейнасці і ў хуткім часе ў розных гарадах Беларусі наладзіць пікеты ў абарону палітзняволеных.

Змену тактыкі дзеянняў Маладога Фронту Павел Севярынец патлумачыў тым, што ў крызіснай эканамічнай сітуацыі ў беларускіх уладаў могуць проста здаць нервы і любое радыкальнае выступленне моладзі можа скончыцца вельмі трагічна. Каб не падстаўляць дарэмна людзей пад рэпрэсіі, МФ цяпер пераносіць сваю асноўную дзейнасць у навучальныя ўстановы, клубы і іншыя маладзёжныя асяродкі. Каб прыцягнуць да працы людзей, якіх не вельмі цікавіць палітыка, Малады Фронт вырашыў заснаваць некалькі грамадскіх аб'яднанняў для аматараў спорту, музыкі, камп'ютэраў, гісторыі і г.д.

На думку кіраўніцтва МФ, цяперашняй восенню моладзь павінна супрацьпаставіць дзяржаўнай рэпрэсіўнай машыне свой інтэлектуальны радыкалізм. У прыватнасці, маладыя апазіцыянеры для прапаганды сваіх ідэй збіраюцца шырока выкарыстоўваць камп'ютэрную сетку Інтэрнэт. Нядаўна там з'явілася ўласная старонка Маладога Фронту, дзе на англійскай і беларускай мовах змешчаная інфармацыя пра дзейнасць гэтай арганізацыі, матэрыялы праваабарончага характару і паведамленні аб планаваных акцыях і праектах. Любы жадаючы можа наведаць старонку маладых апазіцыянераў у Інтэрнэце па адрасе: *http://WWW.geocities.com./capitolhill/senate/1436*.

Але, як падкрэслівалі кіраўнікі Маладога Фронту, такую тактыку яны абралі толькі на восеньскі перыяд. Яны лічаць, што ў 1999 годзе Беларусь чакаюць вялікія перамены і патрасенні і маладафронтаўцы ад іх у баку не застануцца.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Навагрудак яшчэ ніколі не бачыў столькі міліцыі, як гэта было ў мінулыя выхадныя. Але прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка так і не завітаў у старажытны горад на свята ў гонар вялікага паэта Адама Міцкевіча.*

*(Падрабязнасці чытайце на стар.2)*



# Што чакаць ад Прымакова?

*Меркаванні беларускіх палітыкаў*

**Афіцыйны Мінск выказаў задаволенасць прызначэннем Яўгена Прымакова на пасаду старшыні расійскага ўрада. Тым часам апазіцыйныя палітыкі не бачаць у гэтым нічога добрага для Беларусі.**

Нагадаем, што стасункі Прымакова з беларускім істэблішментам складваліся па-рознаму. У якасці міністра замежных справаў Расіі ён наведваў Мінск звычайна для выканання «спецзаданняў Крамля». Напрыклад, у красавіку мінулага года Прымакоў прыляцеў, каб угаварыць Лукашэнку адмовіцца ад непажаданых для Масквы пунктаў статута Саюза Расіі і Беларусі. Тады Рыгоравіч саступіў, а вось праз чатыры месяцы адыграўся. Жнівеньскі 1997-га года прыезд Прымакова ў Мінск дзеля выратавання з турмы расійскіх журналістаў Шарамета і Завадскага беларускі прэзідэнт ацаніў як хітрыкі атачэння Ельцына. *«Гэта робіцца дзеля таго, каб потым сказаць, што ён (Прымакоў) ні на што не здольны, не змог вырашыць праблему»*, — заявіў Лукашэнка. Прымакоў яе сапраўды не вырашыў. Шарамета і Завадскага не выпусцілі ні «праз дзень—два», як паспяшаўся запэўніць пасля візіту Прымакоў, ні праз месяц. Цяпер пра гэты «прымакоўскі канфуз» беларускія афіцыйныя асобы, вядома ж, не ўзгадваюць. Прызначэнне Прымакова ў прэм'еры яны аднадушна вітаюць, а вось агульная танальнасць каментараў апазіцыі іншая. Прапануем пазнаёміцца з тым, што думаюць пра новага расійскага прэм'ера А.Лукашэнка, І.Антановіч, У.Канаплёў, Г.Таразевіч, Ю.Хадыка і С.Шушкевіч.



Прэзідэнт **Аляксандр Лукашэнка** накіраваў віншавальную тэлеграму Яўгену Прымакову, *«паслядоўнаму і цвёрдаму прыхільніку беларуска-расійскага брацтва»*. Рыгоравіч запэўніў расійскага прэм'ера, што ў асобе беларускага кіраўніцтва ён набывае *«самых паслядоўных саюзнікаў і аднадумцаў»*.

Міністр замежных справаў **Іван Антановіч** у інтэрв'ю беларускаму тэлебачанню і «РИА Новости» назваў Яўгена Прымакова *«эрудыраваным чалавекам, які добра ведае эканоміку, ураўнаважаным, хладнакроўным і разважлівым»*. Па словах Івана Антановіча, кіраўнік расійскага ўрада *«заўсёды са шчырай і вялікай цеплынёй гаварыў пра прэзідэнта Лукашэнку. У іх абодвух цудоўныя рабочыя кантакты, яны давяраюць адзін аднаму»*. Кіраўнік беларускага МЗС перакананы, што Прымакоў *«вельмі блізка да сэрца трымае Беларусь і яму неабыякавыя інтэграцыйныя працэсы»*. Са з'яўленнем новага прэм'ера *«наш боль за Расію стане крыху меншым»*, — прызнаецца І.Антановіч.

Намеснік старшыні палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Канаплёў** лічыць, што прэзідэнт Ельцын зрабіў правільны выбар. Па ягоных словах, Яўген Прымакоў — *«патрыёт сваёй радзімы, які прытрымліваецца расійскай дзяржаўнасці і не кладзецца поўнасцю ні пад Амерыку, ні пад Захад»*. На думку Канаплёва, *«да Прымакова лаяльна адносяцца розныя палітычныя партыі і ён не дапусціць кровапраліцця ў Расіі»*. Канаплёў лічыць, што пры любым урадзе *«інтэграцыйныя працэсы не паменшацца. Чарнамырдзін і Прымакоў раўназначныя для Беларусі людзі, якія імкнуцца да цеснага супрацоўніцтва»*. Уладзімір Канаплёў не выключае выкарыстанне багатага жыццёвага і палітычнага вопыту Прымакова для прымірэння Беларусі з еўрапейскімі структурамі.

**Георгій Таразевіч** узгадаў часы, калі ён быў старшынём камісіі па міжнародных канфліктах у апошнім «гарбачоўскім» Вярхоўным Савеце СССР. Напярэдадні некаторых камандзіровак у «гарачыя кропкі» менавіта Прымакоў даваў яму інструкцыі (у той час Прымакоў займаў пасаду старшыні Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР, але пра яго гаварылі, што ён не столькі палітык ці дыпламат, колькі кадравы разведчык). *«Ён быў вельмі асцярожным і прычэпістым да дробязяў, але давяраў чужому меркаванню»*, — узгадвае Таразевіч. Ён лічыць, што з тых часоў Прымакоў значна змяніўся. На думку Таразевіча, які сустракаўся з Прымаковым крыху больш за год таму ў Маскве, Прымакоў цяпер ужо не такі «чырвоны» і «чырвоным» больш не будзе. *«Ён будзе чыстым цэнтрыстам. Свае палітычныя погляды ён заўсёды ўмеў хаваць, а цяпер тым больш»*. Таразевіч упэўнены, што для Беларусі прыход Прымакова ў расійскую прэм'еры азначае працяг былога курсу на паступовае ўцягванне нас «у канчатковую інтэграцыю». Разам з тым Таразевіч лічыць, што *«Прымакоў добра ведае, хто такі Лукашэнка, і падмануць сябе не дасць»*.

Намеснік старшыні БНФ **Юрый Хадыка** лічыць Яўгена Прымакова тыповым расійскім шавіністам. Хадыка нагадаў, што менавіта пад кіраўніцтвам Прымакова стваралася апошняя ваенна-палітычная дактрына Расіі, згодна з якой Беларусь павінна зноў ператварыцца ў заходнюю правінцыю. Хадыка мяркуе, што прыход такой фігуры ў кіраўніцтва расійскага ўрада невыпадковы, бо чарговую няўдачу ў рэформах у Расіі заўсёды імкнуліся кампенсаваць пашырэннем імперыі. Прымакоў для гэтых новых задачаў падыходзіць больш за іншых.

*(Працяг на стар. 2)*

## Яшчэ 4 дні на падпіску

**Шаноўныя чытачы!**

**Падпіска працягнутая да 18 верасня. Газету НАВІНЫ можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і Белсаюздруку. Кошт падпіскі на месяц - 40.000 руб.**

# Прэзідэнты не прыехалі

**У мінулыя выходныя ў Навагрудку быў афіцыйна адзначаны 200-ы юбілей вялікага паэта Адама Міцкевіча.**

Да апошняга дня горад уяўляў сабой будаўнічую пляцоўку, на якой адбываўся класічны савецкі аўрал. Рабочыя працавалі да цямна і ўсё адно не паспявалі закончыць рамонт гатэля і рэстарана «Свіслач». Толькі здолелі цалкам падрыхтаваць цэнтральную плошчу, на якую пайшло 10 мільярдаў рублёў. Горад, дарэчы, цэлыя тры месяцы прабыў без помніка Леніну, які дэмантавалі, і жыццё ад гэтага не спынілася. Але перад самым святам паставілі іншага, больш «сучаснага» Ільіча, а каб ніхто не зблытаў, амаль у апошнія хвіліны на пастаменце зрабілі адпаведны надпіс.

Усяго на падрыхтоўку горада да свята пайшло 100 мільярдаў рублёў, дзякуючы чаму правінцыйны Навагрудак стаў выглядаць лепш. Дарэчы, улады з нагоды 200-ых угодкаў А.Міцкевіча наладзілі ва ўсім раёне камуністычны суботнік. Начальства правяло растлумачальную работу наконт яго неабходнасці, абавязаўшы ўсіх кіраўнікоў вывесці падначаленых з венікамі і забяспечыць «высокую арганізацыю працы». Перад святам навагрудскія крамы напоўнілі каўбасамі і мясам.

У сцэнарыі мерапрыемства называўся толькі адзін канкрэтны чалавек — прэзідэнт А.Лукашэнка. Было падрабязна распісана, як ён будзе ставіць да помніка паэту кошык з кветкамі, як будзе гаварыць прамову на пляцы, як, нарэшце, пасадзіць дубок перад Домам-музеем Міцкевіча. Зямля для дрэўца, дарэчы, павінна была быць прывезеная з радзімы паэта — з хутара Завоссе, а вада, каб паліць, — са Свіцязі. Аднак усю гэтую працэдуру выканаў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг. Аляксандр Лукашэнка не прыехаў, хоць дзяржаўныя *mass media* ледзьве не да апошняга моманту паведамлялі, што ён будзе ў Навагрудку.

Рэч у тым, што, апроч іншых, запрошаны былі прэзідэнты Польшчы і Літвы, як старшыні нацыянальных аргкамітэтаў святкавання 200-ых угодкаў паэта. Аднак не прыехалі нават міністры культуры. І пра гэта ўжо было вядома напярэдадні. Таму і Лукашэнка сам да сябе на свята не прыехаў.

Канечне, дзіўна было б, каб пасля скандалу з пасламі ды іншых інцыдэнтаў Квасьнеўскі з Адамкусам пажадалі б спаткацца ў Навагрудку з Лукашэнкам, якому адмовіла ў візах амаль уся Еўропа. А шкада. Усё ж у мінулыя выходныя для беларусаў упершыню выпадала выдатная магчымасць на афіцыйным узроўні паведаміць суседзям пра свае правы на Адама Міцкевіча — сына беларускай зямлі. Не атрымалася, і ўжо не атрымаецца. Але Адамкус з Квасьнеўскім, напэўна, у гэтым не вінаватыя. У падобных выпадках звычайна гавораць: будзь ты сам чалавекам, і тады да цябе іншыя па-людску будуць ставіцца...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



*Помнік Адаму Міцкевічу ў Навагрудку.*

# Што чакаць ад Прымакова?

*(Пачатак на стар. 1)*

Сітуацыя для аншлюсу, на думку Хадыкі, складаецца вельмі спрыяльнай. *«За аншлюс беларускі рэжым запатрабуе дробязь — выхад Лукашэнкі на палітычную арэну Расіі. А каб зрабіць усё як трэба — тут і дапаможа такі вопытны дыпламат, як Прымакоў. Таму ягонае прызначэнне ў расійскія прэм'еры для суверэнітэту Беларусі я лічу вельмі небяспечным»,* — заявіў Юрый Хадыка.

Былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі **Станіслаў Шушкевіч** адзначыў такія якасці Прымакова, як ягоны інтэлект, шырокую адукацыю, адміністратарскія здольнасці, вялікі вопыт. Дзеля якой мэты ўсё гэта будзе скарыстанае? *«Ён можа паспяхова гуляць у любыя гульні»,* — лічыць Шушкевіч, які неаднаразова сутыкаўся з Прымаковым у «гарбачоўскім» парламенце. Станіслаў Шушкевіч нагадаў пра тое, як дэпутаты прызначылі Прымакова старшынём камісіі па прывілеях: *«Вядома ж, Прымакоў бліскуча прадэманстраваў, як можна павялічыць прывілеі шляхам змагання з імі»,* — смяецца Шушкевіч. Што ж тычыцца Беларусі, Шушкевіч упэўнены, што *«Лукашэнку не ўдасца перагуляць у сваёй інтэграцыйнай гульні такога аса, як кадравы разведчык і дыпламат Яўген Прымакоў».*

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ, Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# За лішні кілаграм – штраф

**Новы дэкрэт Аляксандра Лукашэнкі «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку» быў абнародаваны толькі 12 верасня, аднак у сілу ён уступіў 4 верасня — з моманту падпісання.**

У адпаведнасці з дэкрэтам, аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам сталі асноўнымі «рэгуліроўшчыкамі» ў гандлі. Атрыманыя правы яны скарысталі яшчэ да выхаду дэкрэта, які, хутчэй за ўсё, быў падпісаны «задним числом».

Дэкрэт уводзіць значныя штрафы за парушэнне нормаў продажу тавараў. Напрыклад, калі прадавец з мінскай крамы прадасць аднаму чалавеку больш за два кілаграмы мяса ці каўбасных вырабаў, больш за два літры малака альбо больш двух кілаграмаў хлеба, мукі, цукру і г.д., то ён і ягонае кіраўніцтва могуць быць пакараныя штрафам у памеры ад 50 да 100 мінімальных заробкаў. Лавіць такіх «злачынцаў» і выпісваць ім штрафы атрымалі права супрацоўнікі шматлікіх кантрольных і праваахоўных структураў — камітэт дзяржаўнага кантролю, органы ўнутраных справаў, фінансавых расследаванняў, падатковыя і мытныя службы.

Новыя правілы датычаць прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці. За парушэнне існуючага парадку гандлю фірма можа быць ліквідаваная, а дзейнасць прыватнага прадпрымальніка — спыненая.

Дэкрэт прадугледжвае адказнасць за вываз тавараў «з парушэннем усталяванага парадку». Гэтае «злачынства» караецца штрафам у памеры ад 50 да 500 мінімальных заробкаў з канфіскацыяй тавараў і адпаведных транспартных сродкаў. Разглядаць справы аб канфіскацыях будзе гарадскі ці раённы суд.

Зрэшты, згодна дэкрэта, вывозіць тавары звыш усталяваных нормаў можна — трэба толькі заплаціць дзяржаве спецыяльны збор у памеры двайнога кошту тавару.

Урадавая істэрыя наконт вывазу тавараў і жорсткасць уведзеных пакаранняў выглядаюць даволі дзіўна. Вываз актывізаваўся, але не настолькі, каб з-за яго апусцелі прылаўкі беларускіх крамаў. Расійскія рублі, за якія гандлююць у Расіі, сёння страцілі ранейшую прывабнасць. Гэта пацвярджаецца і невялікімі памерамі затрыманых тавараў, хаця адлоў чаўнакоў вядзецца цяпер усімі магчымымі сіламі і спосабамі. Складаецца ўражанне, што сваю віну за бяздарнае кіраванне эканомікай дзяржава проста хоча перавесіць на чаўнака, які становіцца ворагам нумар адзін.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Інструкцыі ад Ціцянкова

**Мясцовыя ўлады Магілёўшчыны з энтузіязмам узяліся выконваць прэзідэнцкую спробу ў чарговы раз абараніць беларускі спажывецкі рынак адміністрацыйнымі метадамі.**

З гэтай мэтай ужо створаны традыцыйны ў падобных выпадках орган — абласны штаб па рэгуляванні спажывецкага рынку. Яго ўзначаліў намеснік старшыні аблвыканкама. Падобныя штабы тэрмінова ствараюцца ва ўсіх раёнах вобласці. Нават у тых, якія не мяжуюць з Расіяй. Акрамя гэтага, фарміруюцца грамадскія кантрольныя групы. Іх правы і абавязкі не тлумачацца ніводным заканадаўчым актам.

На першым паседжанні абласных штабістаў удзельнічаў прэзідэнцкі «заўхоз» Іван Ціцянкоў. Ён паведаміў, што ў Беларусі ўсяго хапае і няма ніякай патрэбы штосьці назапашваць. Паводле ягоных словаў, эканоміка ў нас працуе добра, таму няма ніякіх падстаў хвалявацца.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Гомель склікае сход

**Гомель у чарговы раз збіраецца пацвердзіць свой статус цэнтра міжрэгіянальных сувязяў. 1-3 кастрычніка тут мае адбыцца сустрэча «пародненых» гарадоў Расіі і Беларусі.**

Створаная з гэтай нагоды ў гарвыканкаме рабочая група ўжо запрасіла на сустрэчу А.Лукашэнку і членаў урада краіны. Мяркуюць, што ў Гомель з'едуцца губернатары і мэры гарадоў аж з 46 абласцей Расіі і Беларусі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Пінск – Кобрын – Варшава

**У свой час жыхары Пінска былі вельмі задаволеныя, калі адкрыўся прамы маршрут «Пінск — Варшава».**

Вельмі зручна: сеў у Пінску а 17 гадзіне, а ў Варшаве назаўтра раніцай. Адпала неабходнасць цягацца з торбамі да Брэста, рабіць перасадку ў Тэрэспалі. Здаецца, усё робіць аўтобусны парк № 3 на карысць землякоў. Вось толькі каштуе квіток з Пінска да Варшавы 1 мільён 200 тысяч рублёў. Кошт квітка з Кобрына да Варшавы (пінскі аўтобус заходзіць у Кобрын) усяго 473 тысячы. Атрымліваецца, што пінчукам дарога ад Пінска да Кобрына абыходзіцца ў 727 тысяч рублёў, амаль у два разы больш, чым з Кобрына да Варшавы. Відаць, пінскія аўтобуснікі лічаць, што ў Пінску жывуць самыя заможныя людзі на Беларусі. А як па-іншаму можна зразумець такую розніцу ў цэнах?

**Віктар ЯРАШУК**

# Смяротны дрот

**Жанчына загінула, прабіраючыся на суседні садовы ўчастак.**

41-гадовая жыхарка пасёлка Обаль Віцебскай вобласці позна ўвечары разам з 9-гадовай дачкой вырашыла нарваць кветак на суседнім садовым участку. Аднак гаспадар участка, каб абараніць свае клумбы ад няпрошаных гасцей, зрабіў агароджу з дроту і пусціў па ім электрычны ток. Смяротна траўміраваная жанчына паспела папярэдзіць сваю дачку, чым і выратавала яе жыццё. Цяпер мясцовая пракуратура будзе вызначаць, наколькі вінаваты 59-гадовы гаспадар участка.

**І.М.**

# Тыдзень суіцыду

**Нечаканай колькасцю самазабойстваў адзначыўся мінулы тыдзень у Магілёўскай вобласці. Тры мужчыны і адна жанчына сышлі з гэтага свету.**

Усім было ад 40 да 59 гадоў. Яны — жыхары Бабруйскага, Быхаўскага, Касцюковіцкага і Клічаўскага раёнаў. А ў райцэнтры Чавусы спрабаваў застрэліцца 24-гадовы хлопец, нідзе не працуючы. Ён цяпер у бальніцы. За жыццё няўдалага самагубцы вядуць барацьбу медыкі. Ва ўсіх выпадках прычыны суіцыду невядомыя.

**Іван ЗАСАДА**

# Палякі ваююць за школу

## *На дапамогу прыедуць парламентарыі з Варшавы*

**Учора ў Гродна з Варшавы прыбыла група дэпутатаў Сейма — прадстаўнікі парламенцкай камісіі па сувязях з палякамі замежжа.**

Адбудуцца сустрэчы ў Генеральным консульстве РП, у Саюзе палякаў Беларусі і ў аблвыканкаме. Польскія парламентарыі павінны спаткацца ў Мінску са старшынём дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацменшасцяў Бялікам. Яны таксама наведаюць Навагрудак, Нясвіж і Брэст, каб спаткацца з членамі мясцовых філіяў Саюза палякаў. Візіт павінен закончыцца ў пятніцу.

Старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін тлумачыць прычыну прыезду парламентарыяў тым, што беларускія ўлады не выконваюць свае абавязкі адносна польскай меншасці. Напрыклад, яны не дазволілі адкрыць у Навагрудку не толькі польскамоўную школу, а нават хаця б адзін першы клас (на што быў дадзены дазвол пісьмом міністра адукацыі мясцовым уладам). У мінулыя выходныя СПБ хацеў правесці пікет у Навагрудку, плакаты былі ўжо падрыхтаваныя. Але акцыю давялося пакуль адкласці. Па-першае, у палякаў не было дазволу на пікет. Па-другое, іх папярэдзілі, што кожны ўдзельнік будзе аштрафаваны на 150 мінімальных заробкаў. А паколькі пікетаваць збіралася некалькі дзесяткаў чалавек, дык агульная сума штрафу атрымалася б унушальнай. *«Мы не ў стане былі б заплаціць такі штраф за сваіх людзей»,* — паведаміў мне Т.Гавін. Цяпер заява на пікет будзе пададзеная навагрудскім уладам.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Чалавек з КДБ на чале расійскага ўрада

Прызначэнне Яўгена Прымакова на пасаду прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі шырока каментуе заходняя прэса. Практычна ўсе выданні падкрэсліваюць «шпіёнскае» мінулае старшыні расійскага кабінета міністраў.

Брытанская **Times** піша: *«Журналіст, шпіён, акадэмік, лінгвіст і дыпламат — за сваё доўгае жыццё Яўген Прымакоў пераспрабаваў усе гэтыя прафесіі, і заўсёды вынік ягонай працы быў выдатны... Тым не меней, яшчэ адной прафесіі Прымакову не хапіла — ён ніколі непасрэдна не займаўся эканомікай. Гэты фактар ставіць пад пытанне здольнасць Яўгена Прымакова вывесці Расію з сённяшняга эканамічнага крызісу і спыніць падзенне рубля».*



*Яўген Прымакоў добра навучыўся лавіраваць паміж левымі і правымі.*

*Times* лічыць нядзіўным той факт, што фігура Прымакова задаволіла практычна ўсіх як у Расіі, так і за яе межамі. Сапраўды, што яшчэ чакаць ад чалавека, піша *Times*, які лёгка знаходзіў для сябе цёплае месцейка і пры Брэжневе, і пры Гарбачове, не згубіўся і пасля падзення камуністычнай сістэмы, прайшоўшы шлях ад дырэктара Службы знешняй разведкі Расіі да прэм'ер-міністра?

Новага расійскага прэм'ера называюць апаратчыкам савецкай школы, які быў вельмі асцярожны і заўсёды дэманстраваў лаяльнасць начальству. Напрыклад, працуючы да апошніх дзён з Міхаілам Гарбачовым, Яўген Прымакоў здолеў не сапсаваць адносіны з Барысам Ельцыным і ягонай камандай, што расцэньваецца прэсай як «вялікае мастацтва».

За трыццаць гадоў працы ў разведцы Яўген Прымакоў, безумоўна, атрымаў добрую практыку ў кантактах з замежнымі і расійскімі палітыкамі. Менавіта гэтым можна патлумачыць ягонае аднachасовае сяброўства з Дзяржсакратаром ЗША Мадлен Олбрайт і з лідэрам Іракa дыктатарам Садамам Хусейнам. Дарэчы, Прымакоў ведае Садама Хусейна ажно з 1969 года, калі Хусейн яшчэ не стаяў на чале іракскай дзяржавы, а Прымакоў працаваў у Багдадзе ўласным карэспандэнтам «Праўды». А з Мадлен Олбрайт Яўген Прымакоў нават спяваў дуэтам некалькі фрагментаў з вядомага амерыканскага мюзікла «Вестсайдская гісторыя». Гэта адбывалася ў ліпені гэтага года, у апошні вечар сустрэчы кіраўнікоў краінаў Паўднёва-Ціхаакіянскага рэгіёна АСЕАН.

***Financial Times*** называе Яўгена Прымакова «ўвасобленым *Homo Soveticus*»: член камуністычнай партыі на працягу 32 гадоў, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, адзін з кіраўнікоў сумнавядомага КДБ... Але, на думку аналітыкаў з *Financial Times*, гэты палітык здольны нарэшце спыніць стары канфлікт паміж расійскай Думай і Крамлём.

Падзеямі ў Расіі цікавіцца і амерыканская прэса. ***The Washington Post*** піша пра Прымакова: *«Гэта шпіён, які стаў міністрам замежных справаў і працаваў без стомы, каб надаць аслабленай Расіі моцы на міжнароднай арэне. Цяпер ён мусіць накіраваць усе свае таленты на выратаванне Расіі ад далейшага падзення на дно эканамічнага крызісу».*

*The Washington Post* адзначае, што хутчэй за ўсё прэм'ер-міністру Яўгену Прымакову, у адпаведнасці з расійскай канстытуцыяй, давядзецца часова выконваць абавязкі прэзідэнта Расіі. Відавочна, што хоць Прымакоў і старэйшы за Ельцына на паўтара года, але здароўе ў яго куды лепшае. І таму на колькі можа зацягнуцца магчымае «часовае» прэзідэнцтва Яўгена Прымакова, ніхто не ведае.

Распавядаючы біяграфію Прымакова, заходнія СМІ згадваюць таксама ягонае габрэйскае паходжанне. У прыватнасці, французская *Liberation* і амрыканская *New York Times* пішуць, што Яўген Прымакоў нарадзіўся ў габрэйскай сям'і, але ва ўмовах савецкага антысемітызму вымушаны быў узяць прозвішча свайго айчыма.

*Па матэрыялах замежнага друку падрыхтаваў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Яўген Прымакоў: журналіст, шпіён, дыпламат...

Яўген Прымакоў нарадзіўся 29 кастрычніка 1929 года ў Кіеве ў сям'і служачых. Дзяцінства правёў у Тбілісі. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскоўскім інстытуце ўсходазнаўства.

**1953—1962** — карэспандэнт, намеснік галоўнага рэдактара галоўнай рэдакцыі Дзяржтэлерадыё СССР.

**1962—1970** — аглядальнік, уласны карэспандэнт газеты «Праўда» ў арабскіх краінах.

**У 1970** годзе Яўгена Прымакова прызначылі намеснікам дырэктара Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных зносінаў Акадэміі навук СССР.

**1977—1985** — дырэктар Інстытута ўсходазнаўства АН СССР.

**1985—1989** — дырэктар Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных зносінаў АН СССР.

**У 1989** годзе Яўген Прымакоў стаў членам ЦК КПСС, а таксама старшынём Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР.

**З верасня па лістапад 1991** года — першы намеснік старшыні КДБ СССР, начальнік Першага Галоўнага ўпраўлення (знешняя разведка).

**З лістапада па снежань 1991** года — дырэктар Цэнтральнай службы знешняй разведкі СССР.

**Снежань 1991 — студзень 1996** года — дырэктар Службы знешняй разведкі Расійскай Федэрацыі.

**З 9 студзеня 1996 па 10 верасня 1998** года — міністр замежных справаў Расіі.

Доктар эканамічных навук, прафесар, **з 1979** года — акадэмік Акадэміі навук СССР. Валодае англійскай, арабскай, армянскай і грузінскай мовамі.

**У красавіку 1989** года па заданні тагачаснага кіраўніка СССР Міхаіла Гарбачова Яўген Прымакоў разам з Эдуардам Шэварднадзе ездзіў у Тбілісі, каб «нармалізаваць абстаноўку» пасля крывавага разгону савецкімі войскамі мірнай дэманстрацыі.

**У студзені 1990** года, пасля таго, як ў Азербайджане пачаліся армянскія пагромы, Яўген Прымакоў прыбыў у Баку на чале партыйна-ўрадавай камісіі. Дзейнасць камісіі скончылася даволі сумна — у Баку былі ўведзеныя войскі.

**У 1990** годзе разам з пісьменнікам Валянцінам Распуціным Я.Прымакоў склаў і падаў М.Гарбачову запіску пра разгул парнаграфіі. У выніку з'явілася распараджэнне прэзідэнта СССР «Аб распрацоўцы неадкладных захадаў па абароне грамадскай маралі».

**У снежні 1990** года па асабістым даручэнні М.Гарбачова Яўген Прымакоў накіраваўся ў Ірак, каб дамовіцца з Садамам Хусейнам пра спыненне вайны ў Персідскай затоцы, аднак нічога з ягонай місіі не атрымалася. Тым не меней, Я.Прымакоў і Садам Хусейн дагэтуль застаюцца добрымі сябрамі.

Яўген Прымакоў жанаты другі раз. У асабістым жыцці яму давялося перажыць некалькі трагічных момантаў: загінуў сын, першая жонка памерла. Ад першага шлюбу засталася дачка, унук і ўнучка. Другая жонка Я.Прымакова — доктар па прафесіі.

Яўген Прымакоў, па яго словах, любіць чытаць дэтэктыўныя раманы, глядзець тэлевізар і плаваць. Кажуць, ён нават піша вершы.



*На здымку: Я.Прымакоў з унучкай.*

# Президент Джексон скоро вырастет

## *Соединенные Штаты выпускают в обращение новую «двадцатку»*

В США распространено официальное изображение новой 20-долларовой купюры и объявлено, что она поступит в обращение на территории страны 24 сентября.

Американцы продолжают кампанию выпуска новых (лучше, чем прежние, защищенных от подделки) долларов в запланированном темпе: по одной купюре в год. После того, как в 1996 году появились 100-долларовые купюры нового дизайна, а в прошлом — 50-долларовые, пришел черед и самой распространенной в США купюры — «двадцатки».

Ее дизайн выдержан в том же стиле, что и уже знакомые нам «обновленные» банкноты достоинством в 100 и 50 долларов. На новых 20-долларовых купюрах портрет президента Джексона станет больше и сдвинется немного влево от центра купюры. Кроме того, изменения коснулись надписей и цифр. Они теперь будут крупнее и темнее, часть, выполненная рельефным шрифтом, станет более выпуклой.

В Беларуси новые «двадцатки» появятся практически сразу же после того, как будут выпущены в США.

### Самая популярная купюра

Банкноты достоинством 20 долларов пользуются наибольшей популярностью у граждан США, их используют в больших количествах при получении наличных денег в банкоматах, а также при оплате различных покупок и счетов на суммы меньше 100 долларов. За вещи, которые стоят больше «сотни», американцы предпочитают расплачиваться кредитными карточками или личными чеками.

Введение новой купюры не означает, что старые «двадцатки» перестанут быть платежным инструментом. Американское правительство традиционно принимает к обмену по номиналу все деньги, которые оно когда-либо выпустило. На территории США еще как минимум год-два старые и новые 20-долларовые купюры будут обращаться параллельно, пока основная масса первых постепенно не будет изъята коммерческими банками и сдана в Федеральное казначейство.

Но за пределами Америки, как показывает опыт выпуска новых 100- и 50-долларовых купюр, старые «двадцатки» могут исчезнуть и раньше. Во-первых, их там меньше, чем в самих США. За рубежами Соединенных Штатов самая ходовая американская купюра — это «сотня». А во-вторых, опасаясь подделок, банкиры в некоторых странах прекращают прием старых и менее защищенных купюр «досрочно». Например, прошлой зимой в Паттайе (Таиланд) туристы столкнулись с тем, что ни один из многочисленных обменных пунктов курорта старые (но вполне платежеспособные по американским правилам) «сотни» и «полтинники» уже не брал.

### Страх перед фальшивками

Страх перед поддельными долларами очень распространен в мире, а в некоторых странах (в том числе и в самих США) достигает степени паранойи.

Относительно масштабов фальшивомонетничества существуют разные мнения. Всего в мире обращается наличных долларов на общую сумму примерно 400 миллиардов долларов. Так вот, по самым пессимистическим оценкам, из них 20 миллиардов долларов — не настоящие. Министерство финансов США, правда, считает, что количество фальшивок гораздо скромнее. По данным министерских чиновников, оно измеряется десятками миллионов долларов, то есть составляет сотые доли процента от общего объема выпущенных денег. Эта оценка исходит из числа фальшивок, которые ежегодно удается перехватывать полициям разных стран (а также, вероятно, из естественного стремления государственных служащих защитить репутацию собственной валюты).

Те, кто настаивает на цифрах в 20 миллиардов долларов или около того, считают, что большое число качественных подделок (такие называют «супердолларами»), изготовленных, возможно, при поддержке правительств некоторых враждебных Америке государств, ускользает от внимания полицейских и банкиров. «Супердоллары», по этой теории, обращаются в мире бок о бок с настоящими долларами. Поскольку иногда действительно попадаются исключительно хорошо сделанные фальшивки, преодолевающие даже автоматические детекторы валют, но нет достоверных сведений о том, кто и где их делает, то и об объемах их выпуска можно только догадываться.

Весьма распространено мнение, будто американские дензнаки (во всяком случае старых образцов) подделывать несложно. В Интернете есть даже страничка, на которой потенциальным фальшивомонетчикам даются полезные советы, как наладить это дело.

Появление долларов нового дизайна, вероятно, укрепит доверие иностранных менял к американским купюрам, но не навсегда. Ведь подделки и новых банкнот уже зарегистрированы. В Италии, например, как некоторые банки не принимали к обмену старые американские сотни, так не принимают и новые.

Как ни парадоксально, хотя ходят упорные слухи, что «супердоллары» родом из арабских стран (главными подозреваемыми считаются Ливия и Ирак), в самом этом регионе менялы обычно не придираются к внешнему виду долларов: принимают старые и новые, свежеотпечатанные и совсем ветхие.

Весьма подозрительно относятся к крупным долларовым банкнотам любых образцов в Беларуси. За последнюю пару лет здесь несколько раз перехватывали крупные партии фальшивок, изготовленных, по некоторым данным, в соседней Польше. Вот население и боится попасть впросак.

**Михаил УШКИН**

# Сдались без выстрелов

**Как мы уже сообщали, 5 сентября в Одессе украинские правоохранительные органы задержали свыше ста лидеров преступного мира из стран СНГ, Европы и Америки. Криминальные «авторитеты» (в том числе из Беларуси) приехали в Одессу на очередной воровской съезд.**

Все, казалось, учли: с надлежащими предосторожностями договаривались о месте и времени встречи, согласовывали повестку дня, по всем правилам конспирации добирались на юг Украины, заблаговременно выставили наблюдательные посты в периметре нескольких километров от Одесского дома творчества писателей, где в полдень 5 сентября намечалась сходка. И тем не менее...

Не успели полсотни «крестных отцов» занять приличествующие должностям места на открывающемся собрании, как на подходах к давно пустующему дому «съезда» появились бойцы подразделений «Сокола», «Беркута». А путь оставленным «на стреме» лимузинам и автобусам участников съезда преградили невесть откуда взявшиеся машины с подкреплением убоповцев.

Мгновенно сообразив, что сопротивление бесполезно, 109 участников сходки, в том числе 41 вор «в законе», сдались без единого выстрела. И с «браслетами» на запястьях попали прямо в кабинеты к одесским следователям. На столах дома творчества так и остались нераспечатанными бутылки коньяку, на мангалах — недожаренные шашлыки, рядом — 7 изъятых у охранников сходки помповых ружей, пистолеты, карабины, боеприпасы, ножи...

«Проморгали» сужающееся кольцо милиции вокруг дома «съезда», как оказалось, не только наблюдательные посты и около двадцати профессиональных «стрелков». Судя по всему, расслабились и потеряли бдительность сами генералы преступного мира — прежде всего московские и санкт-петербургские коронованные воры «в законе». Поскольку уже в августе руководству одесской милиции поступила по оперативным каналам информация о намеченной в сентябре сходке. А после контактов с руководством МУРа, правоохранительных ведомств других стран стали известны и фамилии многих весьма влиятельных участников сходки. Так что встречали в одесском аэропорту лиц высшей воровской номенклатуры, их охранников, а также криминальных авторитетов и лидеров группировок не только организаторы съезда, но и представители милиции и спецслужб Украины, оставшиеся, однако, для приезжих незамеченными. Вследствие чего, понятно, были «засвечены» и новые дома приемов важных гостей, и, разумеется, их владельцы.



Достоянием правоохранительных структур стали также семь «назревших» вопросов, выносимых на обсуждение воровской номенклатуры, контролирующей ситуацию от Лос-Анджелеса до Комсомольска-на-Амуре: раздел и закрепление сфер влияния между преступными мафиозными кланами, выяснение внутренних взаимоотношений, подведение итогов последних кровавых разборок, коронование еще одного из криминальных авторитетов высшим званием — вора «в законе». Более чем вероятно, что намечалось обсудить также проблемы контроля за поставками наркотиков, рынков нефти и зерна, перевалка которых осуществляется через местные порты и прежде всего Одесский транспортный узел. Однако никто из участников милицейской операции этого ни отрицает, ни подтверждает.

Сейчас следователи продолжают беседы с некоторыми участниками неудавшейся сходки. Против одних выдвинуты обвинения в незаконном хранении оружия, других, давно находившихся в розыске, привлекают к ответственности за соучастие в тяжких преступлениях, в частности в совершении убийств и т.д.

Но большинство задержанных после дачи клятвенных заверений, что более никогда не появятся на одесском горизонте, депортировано за пределы Украины — в США, Российскую Федерацию, Молдову, Беларусь, Казахстан, Армению, Азербайджан...

О последствиях срыва одесского съезда судить пока рано. Можно лишь констатировать, что такого психологического удара воры «в законе» не знали многие годы. Без инцидентов прошли международные сходки в Польше, Греции, Объединенных Арабских Эмиратах. Что не было учтено организаторами сходки и кто за это ответит — покажет время. А пока подробности сенсационной операции, а также имена задержанных боссов могущественных теневых структур приказано держать в строжайшей тайне.

**Василий МИХАЙЛОВ**

# Даты і лёсы

## 15 верасня

**1068.** Кіяўляне паўсталі супраць князя Ізяслава, разрабавалі княжы двор і вызвалілі з вязніцы полацкага князя Усяслава Чарадзея і двух ягоных малалетніх сыноў. Многія месцічы лічылі, што чарговы напад полаўцаў на Кіеў быў справакаваны менавіта клятваадступніцтвам Ізяслава, які прагнявіў багоў, па-здрадніцку захапіўшы ў палон Усяслава з дзецьмі. Веча абрала Чарадзея новым кіеўскім князем, але ненадоўга: праз 7 месяцаў той таемна з'ехаў у родны Полацк.

**1890.** Нарадзілася вядомая пісьменніца Агата Крысці. Наклад яе дэтэктыўных раманаў ужо даўно перавысіў мільярд экземпляраў, паводле іх была знята безліч фільмаў, а п'еса «Пастка на мышэй» пабіла ўсе рэкорды папулярнасці (прынамсі, у Лондане, дзе яна не сыходзіць са сцэны ўжо 46 гадоў).

**1908.** Якуб Колас быў асуджаны за ўдзел у нелегальным з'ездзе настаўнікаў да трох гадоў зняволення. У мінскай турме Колас працаваў над паэмай «Новая зямля», у гэты ж час выйшлі ягоныя кнігі «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» і «Песні жальбы».

**1951.** Мінскі радыёзавод (цяпер у складзе аб'яднання «Гарызонт») пачаў выпуск першых беларускіх радыёпрыёмнікаў — гэта былі радыёлы «Мінск-Р-7».

**1988.** У Лондане адчыніўся буйнейшы ў свеце Музей кіно і тэлебачання *(Museum of the Moving Image)*.

## 16 верасня

**1582.** Князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка адправіўся ў шматгадовае падарожжа на Блізкі Усход, пра якое пазней напісаў цікавую кнігу, што больш за 20 разоў перавыдавалася на розных еўрапейскіх мовах. Па вяртанні князь загадаў пабудаваць у Міры новы шыкоўны касцёл. Цікава, што сярод мноства скульптур апосталаў і святых у касцёле быў выстаўлены шкілет маманта, які быў знойдзены ў Міры, калі капалі катлаван для падмурка бажніцы. Можна меркаваць, што ідэя дэманстрацыі ў касцёле шкілета маманта належала Сіротку, бо ў час падарожжа ў Егіпет яго зацікавілі муміі, якія ён хацеў, але не наважыўся прывезці ў Беларусь.

**1668.** Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ян Казімір Ваза, расчараваны няўдачамі (ягоную эпоху часам называюць «дваццацігадовай смутай»), адрокся ад трона і з'ехаў у Францыю, дзе праз 4 гады памёр.

**1810.** Мексіка абвесціла незалежнасць ад Іспаніі, якую акупавалі напалеонаўскія войскі. Рэвалюцыйны ўрад на чале з парафіяльным святаром Мігелем Ідальгам выдаў дэкрэты пра ліквідацыю рабства і вяртанне зямлі індзейцам. Нацыянальнае свята Мексікі.

**1908.** Амерыканскія аўтабудаўнічыя кампаніі *Buick і Oldsmobile* аб'ядналіся ў *General Motors*.

**1921.** Рабочыя Добрушскай папяровай фабрыкі правялі аднадзённы страйк у сувязі з затрымкай заработнай платы і неатрыманнем чарговага пайка за чэрвень-жнівень. У рэзалюцыі сходу рабочых гаварылася, што «працаваць ва ўмовах голаду немагчыма». Бальшавіцкія ўлады адказалі арыштам 6 кіраўнікоў страйку.

**1938.** Нарадзіўся вядомы беларускі кінарэжысёр Віктар Дашук.

**1988.** Вярхоўны суд БССР рэабілітаваў выбітнага беларускага палітыка і навукоўца Вацлава Ластоўскага, расстралянага ў 1938 г.

## 17 верасня

**1908.** У авіякатастрофе загінуў першы пасажыр — гэта быў амерыканскі афіцэр Сэлфрыдж, які ўдзельнічаў у выпрабавальным палёце Орвіла Райта, каб ацаніць магчымасць скарыстання авіяцыі ў ваенных мэтах.

**1922.** У Берліне адбыўся першы публічны прагляд гукавога кінафільма.

**1925.** На педагагічным факультэце БДУ адбыўся першы выпуск — 110 настаўнікаў.

**1939.** Савецкія войскі пачалі «вызваленне» Заходняй Беларусі і Украіны.

**1944.** Нарадзіўся Рэйнхольд Меснер — знакаміты аўстрыйскі альпініст, які пакарыў усе васьмітысячныя вяршыні планеты, а ў 1980 г. першым узышоў на Эверэст без выкарыстання кіслароду. Яшчэ адным дасягненнем Меснера з'яўляецца пераход праз Антарктыду без дапамогі механічнага транспарту і сабакаў.

**1947.** Джэймс Фарэстал прынёс прысягу ў якасці першага міністра абароны ЗША. Праз няпоўныя два гады ён быццам бы выкінуўся з акна з крыкам «Рускія ідуць!»

**1953.** Першая паспяховая аперацыя па раздзяленні сіямскіх блізнятаў.

**1991.** Латвія, Літва, Эстонія, Паўночная і Паўднёвая Карэі сталі членамі ААН.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**Паліцыя Італіі** паведамляе пра каштоўную знаходку на віле аднаго фінансіста, які да нядаўняга часу хаваўся ад правасуддзя.

# Два мільёны долараў – у вазоне

У вазонах з кветкамі, якія вы можаце бачыць *(на здымку)*, знаходзіліся залатыя зліткі агульным коштам каля двух мільёнаў долараў.

Уладар багацця, 79-гадовы Ліча Джэлі — былы Вялікі майстар італьянскай масонскай ложы Р2. У 1994 годзе ён быў асуджаны да 12 гадоў турэмнага зняволення за ўдзел у карупцыйным скандале, але знік і быў арыштаваны толькі на мінулым тыдні ў Канах (Францыя).



У кватэры Ліча Джэлі ў Канах былі знойдзеныя паперы, якія прывялі паліцэйскіх на вілу Л.Джэлі ў італьянскай правінцыі Таскана. У шасці тэракотавых вазонах, якія ўпрыгожвалі тэрасу, захоўваліся 165 залатых злiткаў на суму каля 2 мільёнаў долараў.

Паліцыя перавезла золата ў банкаўскі сейф і працягвае пошукі іншых каштоўнасцяў і дакументаў, што таксама могуць быць схаваныя на віле фінансіста. Дарэчы, як сцвярджаюць італьянскія паліцэйскія, Ліча Джэлі ўжо не ўпершыню расстаецца са сваімі багаццямі — некалькі гадоў таму ў яго было канфіскаванае золата, якое ён незаконна трымаў у банках Аргенціны і Швейцарыі.

# Прэмія для бандыта

Адна з рыжскіх газетаў паведамляе, што вядомы чачэнскі тэрарыст Шаміль Басаеў паабяцаў буйную прэмію ў цвёрдай валюце таму, хто 27 верасня зможа абрабаваць банк у дагестанскім горадзе Кізляр. Па звестках інфармацыйнага агенцтва «ІМА-прэс», незвычайны конкурс прымеркаваны да 90-годдзя «подзвігу» земляка Шаміля Басаева — абрэка Зялімхана Харачоеўскага, які ўчыніў налёт на кізлярскі банк, папярэдзіўшы пра свой намер кіраўніцтва банка. Дарэчы, па словах Басаева, у «спаборніцтве» могуць удзельнічаць грамадзяне ўсіх краінаў.

# Амерыканскія студэнты памянялі піва на Інтэрнэт

Даследчая фірма *Student Monitor LLC* правяла апытанне 1.200 амерыканскіх студэнтаў, якія вучацца ў ста каледжах і універсітэтах ЗША. Ім задавалася пытанне: «Што вы любіце рабіць больш за ўсё ў вольны ад вучобы час?» Да здзіўлення даследчыкаў, на першым месцы па папулярнасці ў студэнтаў аказаўся Інтэрнэт. Падарожжу па «сусветнай павуціне» аддаюць перавагу 72,5% студэнтаў. На другім месцы — «распіццё піва». Гэтаму прыемнаму занятку аддаюцца толькі 70,8% амерыканскіх студэнтаў.

# Пачалася вайна з прагульшчыкамі

**Школы горада Бостана (ЗША) падрыхтавалі нечаканы сюрпрыз для сваіх вучняў. Напачатку новага вучэбнага года кожны навучэнец атрымаў ад школы ў падарунак надзейны будзільнік.**

Педагогі спадзяюцца, што цяпер на занятках будзе прысутнічаць больш вучняў — «стандартныя» спасылкі на гадзіннік, які спыніўся або спазняецца, страцілі сваю актуальнасць.

Статыстыка сцвярджае, што ў Бостане вучні старэйшых класаў прагульваюць свае ўрокі часцей, чым іхнія аднагодкі з іншых буйных гарадоў ЗША. Таму летась гарадскія ўлады Бостана аб'явілі аб пачатку агульнагарадской кампаніі па барацьбе з прагуламі, якая будзе каштаваць каля двух з паловай мільёнаў долараў. Раздача будзільнікаў, праведзеная пры дапамозе бостанскіх фірмаў, — толькі адзін эпізод з гэтай кампаніі. Дарэчы, некаторыя школы Бостана нават паабяцалі грашовыя прэміі для тых вучняў, якія не прапускаюць заняткаў у школе.

*По матэрыялах замежнай прэсы падрыхтаваў* **Міхась КАРПОВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1235 Нумар падпісаны ў друк 14/09/98 (15:30) Наклад — 19 820.